

Праваабарончы
інфармацыйны бюлетэнь
Берасьцейшчыны

№ 10 (кастрычнік), 2015

# Мяжа



**Мэта - прыцягнуць выбаршчыка на вучасткі**

(старонка 4)

## ЗЬМЕСТ

## Жыхары Бярозы – за сумленныя выбары

Гадзінная сустрэча ў Бярозе на галоўнай плошчы горада з кандыдатам у прэзідэнты Таццянай Караткевіч высветліла шмат праблем, якія хвалююць людзей.



Гэта пытанні тычыліся эканомікі, уладаў, мовы, расейскіх вайсковых базаў. Першае пытанне прагучала ад Вадзіма Якушыка:

– Цяперашні дырэктар ЖКГ трапіў на сваю пасаду па купленай вышэйшай адукацыі. Вось пакет дакументаў, я гэта разаслаў паўсюль, на што мне адказалі, што захады па такіх кіраўніках прымаюцца цягам двух гадоў.

– Мы – адзіная дзяржава ў Еўропе, дзе было ўведзенае рабства. Я маю на ўвазе кантрактную сістэму.

А найбольш усяго хвалюе жыхароў фальсіфікацыя на выбарах. Яны жадаюць бачыць прэзідэнтам новага чалавека. Але не вераць, што галасы палічаць правільна:

– А Вы ўпэўненыя, што выбары пройдуць сумленна?

– На выбарчых участках сядзяць адныя і тыя ж людзі. Я не хачу болей бачыць іхныя морды!

– Я супраць датэрміновага галасавання.

У канцы жадаючыя змаглі сфатаграфавацца з Таццянай Караткевіч. Яна – адзіны кандыдат, які сустракаўся з бярозаўчанамі. Шмат прысутных, а гэта каля 80 чалавек, сустрэчай засталіся задаволеныя.

http://www.racyja.com/hramadstva/zhykhary-byarozy-za-sumlennyya-vybary/

## Мэта - прыцягнуць выбаршчыка на вучасткі

30 верасня а 18:00 у Палацы прафсаюзаў, што ў Берасці, адбылася сустрэча кандыдата Таццяны Караткевіч з выбаршчыкамі.




На сустрэчу прыйшло блізу 400 берасцейцаў, якіх на ўваходзе ў Палац віталі два агітацыйных пікету. Адзін, зладжаны Федэрацыяй прафсаюзаў у падтрымку А. Лукашэнкі з раздачай ягонай праграмы, другі, зладжаны БСДП(Г) у падтрымку Таццяны Караткевіч з выкарыстаннем партыйнай сімволікі. У файйе ішоў збор подпісаў за адмену Дэкрэта № 3 вядомы як, “закон аб тунеядцах”.

Усваім выступе Таццяна Караткевіч прызнала, што ейны рэйтынг каля 17 адсоткаў. Але выбаршчыкі ведаюць, што Лукашэнка перамагае 82 адсоткамі, а рэшта ідзе на “канкурэнтаў”, перамога Караткевіч нерэальная.

Асноўны пасыл кандыдаткі да выбаршчыкаў заключаўся ў словах: “Прыйдзіце 11 кастрычніка на вучасткі і прагаласуйце за Мяне. Калі за мяне прагаласуе большасць, мы пераможам”.

То бок гэты пасыл ідзе цалкам у рэчышчы ўладаў прыцягнуць

выбаршчыка на вучасткі, забяспечыць яўку 50% +1, інакш выбары не адбудуцца і будзе вялікая праблема – неабходнасць праводзіць іншыя выбары з новымі кандыдатамі.

Некаторы выказвалі думку, што кандыдат Караткевіч рыхтуецца да парляманцкіх выбараў… Але ў цэлым сустрэча прайшла ў цёплай, спакойнай і даверлівай атмасферы, якую спрабавалі сапсаваць актывісты Белай Русі і БРСМ. Іх састарэлыя песні аб “блакітным” Захадзе, “карце паляка” і росце дабрабыту беларусаў не знайшлі разумення сярод прысутных.

Людзі відавочна жадаюць “пакаёвых” перамен.

## Датэрміновае галасаванне. Дзень першы

6 кастрычніка ў Берасце на выбарачным участку (УВК) № 35, як і па ўсей краіне, пачалося датэміновае галасаванне. Большасць членаў УВК № 35 з'яўляюцца прадстаўнікамі аднаго калектыву, работнікамі электралямпавага завода. Сярод назіральнікаў, якія вылучаныя рознымі шляхаміі, таксама шмат работнікаў электралямпавага завода.

У першы дзень датэрміновага галасавання на вучастку прысутнічала 5 назіральнікаў, але у журнале акрэдытацыя назіральнікаў было запісана аж 16 асоб. Адсутнічалі прадстаўнікі ад БПРС,ад Белай Русі,ад партыі труда і справядлівасці, ад камуністычнай партыі…

На інфармацыйным стэндзе вывешано папярэджанне, што фота- і відэаздымка аўдыёзапіс выrабляецца толькі з дазволу старшыні камісіі.

У узоры для галасавання ёсць, але насцярожвае той факт, што пазначка стаіць насупраць трэцяга прозвішча, а ў бюлетэні пад трэцім нумарам – прозвішча Лукашэнкі, што дае падказку для выбаршчыкаў, у якім месцы ставіць адзнаку.

Месцы для назіральнікаў на выбарчым участку № 35 вельмі нязручныя. Члены камісіі размяшчаюцца ў кабінеце, дзе выдаюць бюлетэні для галасавання і там жа знаходзіцца скрыня для галасавання. Кабінка тайнага галасавання знаходзіцца ў прахадным калідоры. Назіральнікі глядзяць за працэсам галасавання, зазіраючы




у кабінет з-за дзвярэй.

Нязменная скрыня для галасавання апячатывалася выквітным спосабам, перавязалі матузкай, зрабілі адбітак “унікальнай” для ўсёй Беларусі(адзінага ўзору з надпісам “Участковая выбарчая камісія. Рэспубліка Беларусь”) печаткі на пластіліне.

Скрыню для галасавання апячаталі ў 9.45. У 10.00 прагаласаваў першы выбаршчык, Здзівіў візіт не вучастак неўпаўнаважанай асобы, ў 10.45 на выбарчы ўчастак завітаў намеснік дырэктара электралямпавага завода, кажуць, “па інфармацыю”...

## Выбары на даму

11 кастрычніка 2015 года праходзіла галасаванне па месцы знаходжання выбаршчыкаў на 35 участку Маскоўскага раёна г. Брэста.

Старшыня камісіі загадзя паскардзілася назіральніку, як цяжка будзе праводзіць галасаванне па месцы знаходжання выбаршчыка, скардзілася, што цяжка трапіць у пад'езды, бо ніхто не адкрывае дзверы, а без чыпа ад дамафона не прайсці. На што назіральнік



адказала, што праводзіць галасаванне па месцы знаходжання выбаршчыка неабходна толькі па заявы выбаршчыка, а сябрам камісіі ісці па канкрэтным адрасе, дзе чакаюць камісію. Колькасць бюлетэняў павінны адпавядаць колькасці заяў выбаршчыкаў.

Пасля таго, як назіральнік выявіў жаданне прысутнічаць на галасаванні па месцы знаходжання выбаршчыкаў, колькасць спісу выбаршчыкаў, якія выказалі жаданне галасаваць на даму адразу ж скарацілася. Першапачаткова старшыня камісіі агучвала лічбу 65, але выдалі 59 бюлетэняў у адпаведнасці са спісам. Абыходзіць кватэры пачалі рана ў 10.00, прагаласавалі на даму 47 выбаршчыкаў, другі раз абыходзілі кватэры ў 18.00, прагаласавала яшчэ 11 чалавек, разам 58.

Варта адзначыць, што складзеныя спісы галасуючых на даму на гэтыя выбары не абнаўляліся, заяўкі не рабіліся, двое чалавек з спісу памерлі. У іншай кватэры чалавек паміраў пасля інсульту, ён не мог заявіць прыход каміссіі. Выбаршчык яшчэ з адной кватэры сказаў, што не запісваўся. Некаторыя выбаршчыкі ўжо прагаласавалі датэрмінова. У адной з кватэр выбаршчыца ўвогуле здзівілася, што да яе прыйшлі «Мне асабліва гэта і не трэба».

На суседнім 34 выбарчам участку выдалі бюлетэняў сябрам

камісіі больш, чым было заяўлена па спісе. Прагаласавала звыш 160 выбаршчыкаў.

У асноўным на даму людзі галасуюць глыбока сталага веку, часцяком адзінокія, забытыя сваякамі, многія не ўсведамляюць, што адбываецца. Яны вельмі радуюцца, калі да іх нехта прыходзіць – кватэра ажывае.

## Калі выйграў – нашто хлусіць!?

Дзіўны падлік галасоў адбываўся на выбарчым участку № 35 Маскоўскага раёну Берасця. Нягледзячы на заяву назіральніка ад БСДП “Грамада” Уладзіміра Яцкевіча, які прасіў каб падлік галасоў праводзіўся адкрыта і галосна, члены участковай комісіі правялі падлік галосоў, як непісалі ў сваёй адмове, “згодна з арт. 52 выбарага кодэксу”.



Спачатку паціху пералічылі невыкарыстаныя бюлетэні, потым апячаталі, і зверху пад шнурочак падсунулі інфармацыйную паперку аб змесце пакунку, якую не прыклейвалі і на якой колькасць бюлетэняў не пазначылі.

У такі ж спосаб запакавалі сапсаваныя бюлетэні.

Наступным крокам адкрылі скрыню датэрміновага галасавання. Высыпалі бюлетэні на загадзя падрыхтаваныя сталы і пацiху пачалі

раскладаць па кандыдатам. Члены камісіі паціху пералічылі бюлетэні, лічбы не агучылі, адна з членаў камісіі патіху фіксавала лічбы, хаваючы паперку ад прысутных. Две асобы з кіраўніцтва камісіі ўпатай падсумавалі лібы і агучылі толькі агульную лічбу датэрміновага галасавання. Колькі галасоў было аддадзена паасобна за кожнага кандыдата прысутным не агучвалі, ня гледзячы на патрабаванне назіральнікаў. Візуальна было бачна, што стос за кандыдата Лукашенка былі у два разы большы за стос кандыдата Караткевіч.

Далей ускрылі скрыню для галасавання на даму. Патаемная працедура паўтарылася. Бюлетэні галасаваўшых на даму паклалі ў стосы галасаваўшых датэрмінова. Добра было бачна, што стос за кандыдата Лукашенка па-ранейшаму быў у два разы большы за стос кандыдата Караткевіч.

Надышла чарга апошняй скрыні для галасавання, ў дзень выбараў.

Расклалі па кандыдатах, паціху пералічылі, лічбу не агучылі, і таксама патіху, каб ніхто не бачыў, запісала лічбы. Агучылі агульную лічбу галасаваўшых у дзень выбараў. Бюлетэні паклалі ў тыясама стосы. Лічбы адданых галасоў за кожнага з кандыдатаў ізноў не агучываліся. Прапарцыйна суадносіны стосаў галасоў (бюлетэняў) адданых за кожнага з кандыдатаў не змяніліся. Надалей было бычна, што стос за кандыдата Лукашенка быў у два разы большы за стос кандыдата Караткевіч, стосы іншых кандыдатаў былі мізэрныя, не вартыя ўвагі.

На патрабаванне назіральнікаў агучыць лічбы за кожнага кандыдата, старшыня камісіі адказала, што усё будзе ў пратаколе.

Усе бюлетэні запакавалі ў адзін пакунак, перацягнулі шнурочкам, апячаталі, і зверху пад шнурочак падсунулі інформацыйную паперку з нумарам вучастка.

Старшыня каміссіі яшчэ з адным членам камісіі, які працуе ў выканкаме, адасобілісь у асобным пакоі дзеля складання пратакола.

Нарэшце ўсіх прысутных азнаёмілі з вынікамі выбараў. Агучылі лічбы: за Лукашенко – 786 галасоў, за кандыдата Караткевіч - 164. Суадносіны паміж бачаным і агучаным відавочна не згаджалісь.

Даверанае ліцо Караткевіч Ганна Канюс падала скаргу старшыні каміссіі аб парушеніі арт. 52 выбарачнага кодексу і атрымала адпіску.

Назіральнік ад грамадзян Маргарыта Вялічкіна патрабавала ўскрыть пакункі і пералічыць бюлетэні, ёй таксама было адмоўлена.

На абарону старшыні камісіі сталі прысутныя дeпутаты палаты прадстаўнікоў.

Назіральніца ад савета ветэранаў напісала скаргу на назіральніцу Вялічкіну, якая зрабіла фотаздымак пакунку і “патаемнага” пакою, дзе складаўся пратакол.

“Зараз разумею, чаму забараняюць фатаграфаваць на вучастку. Шкада, што не сфатаграфавала стосы бюлетэняў. Калі выйграў – нашто хлусіць!?” – абураецца назіральніца.

## Назіральнікі за назіральнікамі

12 кастрычніка адбыліся выніковыя пасяджэнні Ленінскага і Маскоўскага раёнаў г. Брэста камісій па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

Старшыня камісіі Ленінскага раёна г. Брэста Наумовец Тамара Васільеўна праінфармавала аб выніках галасавання па выбарах прэзідэнта РБ па Ленінскім раёне г. Брэста. Выіграў кандыдат А.Г.Лукашэнка.

Камісія аднагалосна зацвердзіла вынікі галасавання па Ленінскім раёне. Прысутныя на пасяджэнні назіральнікі В.Губарэнка і М.Вялічкіна пацікавіліся, ці падаваліся скаргі ў тэрытарыяльную камісію. Ёй адказалі, што была пададзена адна скарга, якая тычыцца падліку галасоў. Намеснік старшыні камісіі Людзміла Капусціна назвала скаргу нязначнай.

У той сама час праходзіла пасяджэнне Маскоўскага раёна г.Брэста камісіі па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. На пасяджэнні прысутнічалі назіральнікі ад БРСМ Святлана Шляжко і ад БХК Уладзімір Вялічкін.

Старшыня камісіі Галіна Янголенка агучыла вынікі выбараў, якія былі адзінагалосна зацьверджаныя. Намесніку старшыні камісіі было даручана вызначыць месца перахоўвання матэрыялаў (бюлетэняў) атрыманых з участковых камісій. Была выказана падзяка за

Маскоўскай адміністрацыі "за створаныя ўмовы працы камісіі". Напрыканцы старшыня камісіі адзначыла працу назіральнікаў на вучастках...

" "Хацелася б адзначыць працу назіральнікаў на вучастках..." гэтая фраза мяне ўразіла", - сказаў Уладзімір Вялічкін, які прысутнічаў на пасяджэнні Маскоўскай камісіі: "Мяне па надуманых падставах пазбавілі акрэдытацыі ва УВК №7; 2 дні запар безпадстаўна адмаўлялі ў акрэдытацыі ва УВК № 6.

Пэўна гэта "адзнака" тым назіральнікам, якія сачылі, падслухоўвалі і пісалі на мяне "закладныя" запіскі, каб выдаліць мяне з вучастка. Задача гэтых "адзначаных" назіральнікаў не назіраць за выбарчым працэсам, а назіраць за тымі назіральнікамі, якія сумленна робяць сваю працу, а таксама ладзіць супраць іх правакацыі, каб выдаліць з вучастку, каб усё было гладка, "шыта-крыта", як кажуць".

## На Берасцейшчыне зноў знішчаюць свіней

У некаторых вёсках Лунінецкага раёна жывёлы гінуць ад невядомай хваробы. Спецыялісты запэўніваюць вяскоўцаў, што ніякай чумы свіней не было зафіксавана. Аднак вяскоўцы рыхтуюцца да горшага.

Старшыня Берасцейскай абласной арганізацыі Незалежнага прафсаюза Беларусі Валянцін Лазарэнкаў, да якога неаднойчы вяскоўцы звярталісь па юрыдычную дапамогу, перакананы, што гэта – самаўпраўства на мясцовым узроўні:

– Мы зноў атрымалі пацверджанне Міністэрства сельскай гаспадаркі Беларусі, што ў Берасцейскай вобласці ніякай АЧС няма і ніякіх праблем у межах той эпідэміі, якая была – няма. І ў Бярозе, і ў Лунінецкім раёне, і ў Берасцейскім раёне зноў ставіцца пытанне пра тое, што нібыта гэта АЧС, ёсць спасылкі, якія ідуць на АЧС, зноў міліцыя ідзе да людзей і патрабуе знішчэння свіней.

Таксама зафіксаваныя выпадкі, калі нібыта ў мэтах прафілактыкі прадстаўнікі праваахоўных органаў настойліва раілі знішчыць свіней вяскоўцам у Камянецкім раёне.

http://www.racyja.com/hramadstva/na-berastsejshchyne-znou-znishchayuts-svin/

## Спатрэбілася чатыры месяцы скаргаў, каб УУС Брэсцкага аблвыканкаму прызнала парушэнне закона з боку інспектара ДАІ

Вадзім Білібуха, сын адзінага ў Беларусі дэмакратычнага дэпутата сельвыканкама Валеры Білібухі, толькі ў выніку шматлікіх скаргаў дамогся, каб УУС Брэсцкага аблвыканкама прызнаў факт парушэння заканадаўства з боку інспектара ДАІ Бярозаўскага РАУС капітана міліцыі Івана Галая. Абласное упраўленне міліцыі таксама паведаміла, што інспектар ДАІ прыцягнуты да адказнасці, але не паведаміла – якой.

Канфлікт завязаўся на вуліцы Леніна горада Бярозы ў 2 гадзіны ночы чатыры месяцы таму. Капітан Галай спыніў машыну, у якой Вадзім ехаў за рулём чужой машыны, але гаспадар сядзеў побач. Спачатку Галай праверыў дакументы і багажнік машыны і спытаў: “Машыну, пэўна, украў?” Калі было сказана, што ў машыне знаходзіцца гаспадар, то супрацоўнік міліцыі дастаў алкатэстэр і прымусіў кіроўцу дыхаць у трубку алкатэстэра 5 ці 6 разоў. Пасля адмоўнага паказу алкатэстэра інспектар ДАІ сказаў, што ён у яго сапсаваны і павёз хлопца ў прыёмны пакой бальніцы для медычнага агляду. Але і там падцвердзілі, што Вадзім Білібуха цвярозы. Пасля гэтага Іван Галай прыгразіў, што Вадзім яму пакладзе правы на стол усё роўна.

Вадзім Білібуха напісаў скаргу, дзе прасіў правесці праверку па факту выезда інспектара ДАІ І.Галая на патруляванне з няспраўным алкатэстэрам, парушэнне ім парадку агляду, а таксама па факту пагрозы. Начальнік Бярозаўскага РАУС Андрэй Леанюк адказаў, што выкладзеныя В.Білібухай факты несапраўдныя, а алкатэстэр быў спраўны, паколькі месяц перад гэтым праходзіў праверку.

Атрымаць нават такі адказ з міліцыі было няпроста -- доўгі час на скаргу зусім нічога не адказвалі. Пасля настойлівых паўторных зваротаў цяпер ужо былы начальнік міліцыі Андрэй Леанюк напісаў, што адказ быў адпраўлены своечасова простым пісьмом, а чаму Вадзім Білібуха яго не атрымаў, ён не ведае.

Пасля гэтага спатрэбілася яшчэ 4 месяцы скаргаў у розныя

інстанцыі: начальніку ДАІ Бярозаўскага РАУС, начальніку Бярозаўскага РАУС, у пракуратуру Бярозаўскага раёна, у камісію па абароне спажыўцоў, у Міністэрства ўнутраных спраў, пакуль усё ж УУС Брэсцкага аблвыканкама не прызнаў інспектара ДАІ Галая вінаватым у парушэнні патрабаванняў дзеючага заканадаўства. Але ў адказе УУС Брэсцкага аблвыканкама не сказана, які пункт заканадаўства парушыў капітан Галай і не ўдакладняецца, да якой адказнасці ён прыцягнуты.

http://spring96.org/be/news/80823

## Брэсцкая пракуратура не распачала справу аб фальсіфікацыі на выбарах

Брэсцкая гарадская пракуратура не стала распачынаць справу аб фальсіфікацыі на выбарах. Нагадаем, што назіральнікі ад Руху "За Свабоду" Дзяніс Турчаняк і Сяргей Вакуленка 12 кастрычніка накіравалі адпаведныя заявы ў пракуратуру.

Падчас датэрміновага галасавання выбаршчыкі ў Брэсце прыйшлі на ўчасткі, але замест бюлетэня апускалі ў скрыню чыстыя аркушы паперы. Бюлетэні яны забіралі з сабой. Такім чынам, у скрыні для датэрміновага галасавання мусілі быць некалькі чыстых аркушаў.

Аднак на ўчастках №53 і №60 аркушы паперы былі замененыя запоўненымі бюлетэнямі. Па словах назіральніка Дзяніса Турчаняка, гэта даказвае, што скрыня для датэрміновага галасавання ўскрывалася.

"Па двух фактах была напісана заява аб распачынанні крымінальнай справы па артыкуле 192 крымінальнага кодэксу за падробку дакументаў, звязаных з выбарамі і загадзя няправільны падлік галасоў. Сапраўдныя бюлетэні зараз знаходзяцца ў нас, а там (на выбарчых участках — Еўрарадыё) былі бюлетэні фальшывыя, з галасамі, адданымі за нейкага кандыдата", — распавядае Дзяніс Турчаняк.

Аднак пракуратура не стала разглядаць заяву назіральнікаў і перанакіравала яе ў тэрытарыяльную выбарчую камісію. 16 кастрычніка Дзяніс Турчаняк атрымаў адтуль адказ, дзе паведамляецца, што выбары на ўчастку, дзе ён быў назіральнікам,

адбыліся ў адпаведнасці з нормамі Выбарчага кодэксу.

Як паведаміў Еўрарадыё Дзяніс Турчаняк, абскаржваць адказ раённай камісіі ў Брэсцкай абласной камісіі ён не збіраецца. Актывіст будзе звяртацца ў пракуратуру Брэсцкай вобласці. Па яго словах, гарадская пракуратура парушыла Крымінальна-працэсуальны кодэкс, бо замест правядзення крымінальнай праверкі перанакіравала зварот у некампетэнтны для гэтага орган — тэрытарыяльную выбарчую камісію Маскоўскага раёна Брэста.

## Суд над актывістамі, якія мелі намер паехаць у Менск на «шэсьце нацыянальнага сьцяга» перанесены

На 21 кастрычніка ў Берасьці быў прызначаны працяг судовага працэса над Андрэем Кавальчуком, Глебам Грынбергам, Мікалаем Хатынюком і Змітром Абрамуком, якія меліся ўзяць удзел у «шэсьці нацыянальнага сьцяга» ў Менску 10 кастрычніка.

21 кастрычніка ў суд з'явіліся Андрэй Кавальчук і Глеб Грынберг. Двое іншых прыцягваемых да адміністратыўнай адказнасці Мікалай Хатынюк і Зьміцер Абрамук у суд не з'явіліся бо працавалі. Сведкі супрацоўнікі ДАІ ў суд таксама не з'явіліся. У сувязі з гэтым суддзя суду Маскоўскага раёна г. Брэста Карабан Раман Якаўлевіч ізноў перанёс разгляд справы гэтым разам на 30 кастрычніка 2015 года.

Вось што распавёў аб абставінах затрымання Андрэй Кавальчук:

"10 кастрычніка мы вырушылі ў кірунку Мінска. Неўзабаве наш аўтамабіль «Рэно» на выезьдзе зь Берасьця спынілі супрацоўнікі ДАІ. Было каля 11 гадзін дня. Супрацоўнікі ДАІ паведамілі нам прычыну затрымання, нібыта я падобны да чалавека, які знаходзіцца ў вышуку. Людзі ў цывільным абшукалі наш аўтамабіль і маіх сяброў, якія са мной ехалі.

Пасля вобшуку нас даставілі ў Маскоўскі РАУС г. Брэста. Там на нас склалі пратаколы аб адміністратыўным парушэнні, нібыта мы брыдкасловілі, і зьмясьцілі ў ізалятар часовага ўтрыманьня. У райаддзеле нам задавалі дзіўныя патанні: "Ці ваяваў на Данбасе? Страляў ці не страляў?.." Мабыць за мяне ўзяліся таму, што мяне, як футбольнага заўзятара перапісалі на мяжы, калі я ездзіў на футбольны матч у Львове... Ежа ў ізалятары – агідная! 12 кастрычніка

нас прывезлі з ізалятара ў суд Маскоўскага раёну г. Брэста. У судзе мы віны не прызналі і заявілі, што лічым затрыманне незаконным. Запатрабавалі выклікаць сведак-міліцыянтаў. Судзьдзя перанёс пасяджэньне на 21 кастрычніка і выклікаў сьведкаў. Пасьля чаго нас адпусьцілі”.

## Жыхар Брэста працягвае патрабаваць ўзбуджэння крымінальнай справы наконт падробкі дакументаў падчас прэзідэнцкіх выбараў

Актывіст Руху “За Свабоду” Дзяніс Турчаняк накіраваў скаргу на імя пракурора Брэста на дзеянні аддзела ўнутраных спраў адміністрацыі Маскоўскага раёна горада.

У сваёй скарзе Турчаняк нагадвае, што на наступны дзень пасля выбараў накіраваў у гарадскую пракуратуру заяву аб узбуджэнні справы паводле артыкула 192 Крымінальнага кодэкса РБ па факце падробкі выбарчых бюлетэняў і заведама няправільным падліку галасоў на выбарчым участку №60 Маскоўскага раёна г.Брэста. Як паведаміў Дзяніс Турчаняк, “у заяве былі выкладзены юрыдычна значныя факты і падзеі, якія складаюць аб'ектыўны бок злачынства, прадугледжанага згаданым артыкулам Крымінальнага кодэкса”.

Пракуратура перанакіравала заяву актывіста для праверкі ў аддзел унутраных спраў адміністрацыі Маскоўскага раёна горада Брэста, а адтуль заява трапіла ў тэрытарыяльную камісію па выбарах прэзідэнта РБ, якая не з'яўляецца органам крымінальнага пераследу і не мае кампетэнцыі распачаць крымінальную справу. У выніку Дзяніс Турчаняк атрымаў адказ з Маскоўскага РАУС Брэста, што справа распачатая не будзе, хаця праверка паводле заявы не праводзілася. Акрамя таго, самога актывіста ніхто з службовых асоб гэтага аддзела не апытваў і пратакол тлумачэнняў не складаў.

У скарзе на імя пракурора горада Турчаняк просіць прызнаць, што неправядзенне праверкі РАУС з'яўляецца парушэннем патрабаванняў Крымінальна-працэсуальнага кодэкса РБ; даць указанне правесці аб'ектыўную і поўную праверку, а пры наяўнасці падстаў – распачаць крымінальную справу.

Аналагічную скаргу накіраваў і жыхар Брэста Сяргей Вакуленка, які дамагаецца ўзбуджэння крымінальнай справы па факце падробкі выбарчых бюлетэняў і заведама няправільным падліку галасоў на выбарчым участку №53 Маскоўскага раёна горада Брэста.

http://spring96.org/be/news/80959

## Малавядомыя факты гісторыі

Вельмі цікавая сустрэча адбылася 19 кастрычніка ў Берасьце з гісторыкам Ігарам Мельнікавым, які прэзінтаваў сваю новую кнігу “Мяжа ля Заслаўя 1921 – 1941 гг.” А ў мінулым 2014 годзе з друку выйшла першая кніга кандыдата гістарычных навук Ігара Мельнікава «Заходнебеларуская Атлантыда”.

Новая кніга гісторыка распавядае пра беларуска-польскую мяжу ў раёне Заслаўя, якая працягвала існаваць і пасля 17 верасня 1939 года – да нямецкай акупацыі.

Ігар Мельнікаў распавядаў пра малавядомыя факты гісторыі “зоны загароды” – старой польска-савецкай мяжы, якую працягвалі ахоўваць нават пасьля таго як дзьве часткі Беларусі сталі адной дзяржавай. З 1939 па 1941 год людзей там не прапускалі. Каб перасекчы “мяжу” трэба было мець спэцыяльны дазвол.

У кніжцы цікавыя факты з гісторыі кантрабанды, з гісторыі заходнебеларускага крыміналу, гісторыя простых людзей. Аўтар падкрэсліў, што варта вывучаць гісторыю праз лёсы людзей, гэта не савецкая гісторыя, але яна не перастае быць гісторыяй Беларусі.

Таксама Ігар Мельнікаў прадставіў новы часопіс “ARCHE” па назвай “Польша ў другой сусветнай вайне” выдадзены з нагоды 70-годдзя заканчэння Другой сусветнай вайны, у якім змешчаны артыкулы польскіх і беларускіх гісторыкаў, прысвечаныя ваеннай ролі палякаў і беларусаў, якія змагаліся на ўсіх франтах.

Напрыканцы сустрэчы ўсе жадаючыя змаглі набыць кнігу “Мяжа ля Заслаўя 1921 – 1941 гг.” з аўтографам аўтара і атрымаць часопіс “ARCHE”.

**Кантакты:**

**e-mail:** viasna_bierascie@hotmail.com

**Наклад 299 асобникаў**

Праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь Берасьцейшчыны «Мяжа»